Год VII. Кастрычнік № 11 (84).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1935 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

**ГРАМАДЗЯНЕ! Пашырайце „Шлях Моладзі“. Прысылайце адрасы сваіх знаёмых дзеля высылкі ім пробных нумароў!**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — E, e. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | V, v — B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы 50 гр., на паўгода—1 зл., на год—2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

**Цана абвестак паводле ўмовы.**

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VII. | Вільня, Кастрычнік 1935 г. | №11 (84). |
|---|---|---|

## DA NAVUKI!

*Pryśviačaju vučniam Vil. Bieł. Himn.*

Maładoje žyćcio, maładyja hady,
Až kružyć hałava ŭ latucieńniach,
Serca bje małatkom i niasiecca tudy...
Da śviatła, da žyćcia, adradžeńnia.
Hrudzi poŭnyja sił, choć i sumnieńki tvar,
Śmieły zrok šle u vočy niadoli,
I z nadziejaj—ahniom na vyšejšy toj dar
Jmknucca dumki, jak vieciar u poli.
Jmknucca dumki u dal, až u školu svaju,
Huby šepčuć: navuki, navuki!
Hej, praśvieta razhonie niadolu maju,
A tady ja zvajuju ŭsie muki..
Biazupynna tre' płyć, bo kab metu zdabyć:
Tre' zmahacca z žyćciom, pracavaci,
Tre' navuku zdabyć, treba ciemru zvalić
I nanova žyćcio zbudavaci.
Čuješ, brat małady, skiń akovy biady
I navuku starajsia zdabyć,
Bo ŭ burlivym žyćci tre' biaz strachu, žudy
Da śviatła — adradžeńnia płyć... płyć!...

**U. Kazarevič.**

## PIERAD NAČOJ

Z nahody zakryćcia Biełaruskaj Himnazii ŭ Navahradku.

*Pryśviačaju Bieł. Moładzi*

Patuch apošnim bleskam dzień,
Pačuliś kroki nočy...
Panura źniekul strašny cień
Vužakaj lezie ŭ vočy...

Zacichła... Ŭ niamym paŭśnie
Staŭ Duch žyćcia kanaci...
O, noč!—skažy—dakul u ćmie
Ty budzieš nas trymaci?!

**Aleś Miluć.**

* * *

Па ночы цёмнай, безпра-
[сьветнай,
Усходзіць сонца над зямлёй,
І асьвятляе ўсё прыветна,
Сваею грэе цяплінёй.

Па доўгіх днёх жыцьця ліхога
І мы калісьці зажывём—
Цяпер мы жалі шлём да Бога—
Калісьці песьню запяём.

**Янка з Косаўшчыны.**

# Ці можна аб'еднывацца і супрацоўнічаць з камуністамі?

„Шлях Моладзі" зьяўляецца часапісам беларускае моладзі, каторая ставіць сабе за мэту канкрэтную і рэальную працу для Беларусі. „Шлях Моладзі" ўсьведамляе нацыянальна беларускую моладзь, знаёміць яе з гісторыяй, географіяй Беларусі, з беларускімі дзеячамі, пісьменьнікамі, паэтамі і іх творчасьцю, імкнецца ўзгадаваць моладзь у духу народна беларускім, быць ёй памоцнікам у самаадукацыі, у яе літаратурных пачынаньнях, а так-жа дарадчыкам і разрыўкай у штодзенным жыцьці. Перад усім-жа „Шлях Моладзі" стаіць у абароне правоў Беларускага Народу і ўсьцяж заклікаў і заклікае ўсіх маладых беларусаў лучыць свае сілы й супольна працаваць дзеля палепшаньня жыцьця Беларускага Народу, імкнучыся да поўнаты самастойнага жыцьця, не вырашаючы ў сучасны мамэнт аканчальна пытаньня, які маюць заводзіць лад Беларусы ў сваім гаспадарстве (дзяржаве). Абмінаючы гэтае пытаньне, „Шлях Моладзі" адкідае ўсякія тэорэтычныя, часта пустыя, унутраныя змаганьні, а дапушчае ў гэтай справе толькі дыскусію. Ставіцца-ж гэтае пытаньне гэтак дзеля таго, што ўважаем магчымым вырашыць яго ў нашым Краю толькі тады, калі народ наш будзе магчы свабодна выказацца і выбраць той лад, які яму будзе найбольш падабацца, і які будзе яму карысны; калі, напрыклад, нашаму сялянству, якое становіць абсалютную большасьць нашага народу, ня будзе сілай накідвацца колектывізацыя і будзе магчымасьць пашырыць індывідуальную гаспадарку.

Дзякуючы гэткай праграме, „Шлях Моладзі" здабыў сабе шырокую папулярнасьць сярод беларускае моладзі, а ў радох яго супрацоўнікаў знайшліся, побач з маладымі народнікамі дэмакратамі, сацыялісты, нацыянал-сацыялісты, нацыяналісты, а нават марксысты, бо Рэдакцыйнай Калегіі „Шляху Моладзі" ня цікавы асабістыя палітычныя пагляды таго ці іншага супрацоўніка, цікава адно, ці ягоная праца ёсьць карыснай для Беларускага Народу і ці яна прычыняецца да ўзмацненьня бел. незалежніцка-адраджэнскага руху.

Каб-жа праца беларускай моладзі ў Зах. Беларусі была сыстэматычнай, пляновай і арганізаванай, Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі" старалася заснаваць Тав. Беларускае Моладзі „Будучыня"; аднак польскія ўлады не зацьвердзілі статуту яго, не падаючы прычынаў. Вялікая гэтая і непераможная ў сучасны мамэнт перашкода прычынілася да зразуменьня патрэбы як найбліжэйшае лучнасьці моладзі і супольнага яе фронту ў змаганьні за правы Беларускага Народу. Апошнія падзеі на сьвеце, а так-жа факт, што пала-

жэньне Беларускага Народу ўсьцяж пагоршваецца, яшчэ больш панукаюць да аб'яднаньня і актыўнае працы ўсіх беларускіх народных сілаў, а перад усім усяе беларускае моладзі.

Гэтая патрэба аб'яднаньня якраз супадае з пастановай апошняга (7-га) Кангрэсу Камінтэрну (камуністычнай міжнароднай арганізацыі), аб тым, што камуністы павінны паза СССР лучыцца з нацыянальнымі, дэмакратычнымі і лібэральнымі арганізацыямі, каб такім спосабам аслабляць іх некамуністычны характар, браць іх у сваю апеку і супольным фронтам змагацца з фашызмам, заводзячы ўрэшце камунізм. Або, йначай кажучы, каб ламаць фашыстаўскую дыктатуру, а ўстанаўляць камуністычную.

Вось-жа, згодна з гэтай пастановай у Маскве, Віленскі Акружны Камітэт Камуністычнага Саюзу Моладзі Заходняй Беларусі зварочваецца пісьменна: „Да Рэдакцыйнае Калегіі часапісу „Шлях Моладі“, да ўсіх гурткоў і чытачоў «Шляху Моладзі» з заклікам аб'яднаньня і „сумесных выступленьняў“, а так-жа і культурнае працы.

Паўстае пытаньне: як-жа аднесьціся да гэтага закліку і ці можа тая беларуская моладзь, катора жадае **сапраўднае волі, дабра і самастойнасьці свайму народу**, аб'еднывацца і супрацоўнічаць з камуністамі ў Зах. Беларусі, якімі фактычна кіруе Камінтэрн з Масквы, асабліва тады, калі на беларускіх землях у СССР, пад уладай камуністаў, далёка ня ўсё ў парадку.

Ясна, што **не**, бо-ж камуністы ў СССР: фактычна няволяць Беларускі Народ, завёўшы дыктатуру, не даючы права свабоды палітычнай, грамадзкай і рэлігійнай, ды змушаючы беларускае сялянства да колектывізацыі; калечаць беларускую мову, упадабняючы яе да расейскай рознымі рэформамі, з якіх нават цешыцца чорная расейская сотня ў Польшчы; высяляюць беларусаў у Сібір і іншыя аддаленныя краі; твораць у цэнтры Беларусі нацыянальныя польскія раёны, недапускаючы беларускага зьместу ў беларускую літаратуру, навуку і інш. А кожны беларус, працуючы для дабра Беларусі, павінен помніць аб цэпасьці яе і павінен з такой камуністычнай палітыкай адносна Беларусаў змагацца. І мы з ёй змагаемся, і пакуль гэта палітыка сапраўды ня зьменіцца на карысьць Беларускага Народу, пакуль процію яе ня выступяць камуністы, датуль немагчыма і гаварыць аб аб'яднаньні і супрацоўніцтве з імі.

Беларуская моладзь павінна старацца працаваць самастойна, ад нікога незалежна, усюды і заўсёды дзеля здабыцьця дабрабыту і самастойнасьці ўсяму Беларускаму Народу і лучыцца ды супрацоўнічыць з тым, хто гэтаму народу нясе **сапраўдную волю і лепшую долю, адкідаючы як фашыстаўскую, так і чырвоную дыктатуру!**

Я. Н.

---

Ад. Станкевіч. 18)

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня.

## XI. Спробы будаваньня незалежнай Беларусі пасьля ак. у 25.III.1918 і яго значэньне.

### § 1. Рада Бел. Народнай Рэспублікі і яе ўрад

Рада Усебеларускага Зьезду, як сказана вышэй, перайменавалася на Раду Беларускай Народнай Рэспублікі. Выканаўчым яе органам — урадам аставаўся далей Народны Сакрэтарыят, які 9.X.1918 быў пераіменаваны на Раду Народных Міністраў, ці Кабінэт Міністраў.

Вось-жа, пасьля аб'яўленьня Радай БНР 25.III.1918 незалежнасьці Беларусі, прад ей і прад яе ўрадам стала задача рэалізаваньня гэнай незалежнасьці. Сам факт абвешчаньня Беларусі сувэрэннай нацыянальнай дзяржавай і рэальная патрэба гэную сувэрэнную Беларусь будаваць — гэта ўжо сапраўды вялікі, гістарычнага значэньня, шаг уперад у беларускай палітычнай вызвольнай думцы. Сутнасьць гэтага значэньня ў тым, што ўжо далей аб фэдэрацыйнай ці якой іншай лучнасьці і залежнасьці Беларусі з Расеяй ці з кім іншым думаць і гаварыць ня прыходзілася. Гэтыя справы ўжо сталіся другараднымі. На першы плян выплыла сувэрэнная, ад нікога незалежная нацыянальная Беларусь. І слушна, бо „без незалежнасьці паасобных народаў ня можна прыступаць да фэдэрацыі іх. Толькі той народ можа ўступаць у фэдэрацыйную лучнасьць, у дагаворныя зносіны з суседзямі, каторы арганізаваўся, як дзяржава і мае ўладу, якая можа заявіць, чаго гэты народ хоча і чаго ня хоча... Да фэдэрацыі праз незалежнасьць!“1)

Рада Бел. Нар. Рэспублікі ўсё гэта дужа добра ўцяміла й праз свае ўрады энэргічна прыступіла да будаваньня незалежнасьці Беларусі2). Праца была нялёгкая. На перашкодзе сьпярша былі немцы з бальшавікамі, а пасьля, калі немцы аканчальна выйшлі з Беларусі, за Беларусь пачыналася новая барацьба між бальшавіцкай Расеяй і паўстаючай да незалежнага жыцьця новай Польшчай. Рада БНР мусіла будаваць незалежнасьць Беларусі, маючы проціў сябе гэтыя дзьве вялікія варожыя сілы. Аднак Рада БНР рабіла што магла, не апускаючы рук. 28.XI.18 яна адбыла нараду, на якой пастанавіла, дзеля захаваньня беларускай улады, на якую насядалі бальшавікі, пакінуць Менск. Так і сталася. 3.XII.18 частка Прэзыдыуму Рады БНР і ўрад пакінулі Менск і выехалі сьпярша ў Вільню, а пасьля заграніцу. 9.XII.1918 немцы перадалі Менск бальшавіком, а самі адыйшлі назаўсёды.

1) Др. А. Цьвикевичъ — Беларусь, Берлин 1919 бач. 21.

Беларуская ўлада, хоць выгнаная з свайго краю, рабіла ўсё магчымае для збудаваньня незалежнай Беларусі. Праца яе йшла ў двух кірунках: у краі і заграніцай. У краі Рада БНР праз свой урад, ці вярней праз паасобных сяброў Рады і ўраду, што асталіся ў краі, або й так праз верных сабе людзей — рупілася будзіць шырокія беларускія масы да будаваньня й падтрыманьня сваей незалежнасьці. Дзеля гэтага яна арганізавала й падтрымлівала беларускія як пачатковыя, так і сярэднія школы, падтрымлівала каапэрацыю, беларускую прэсу і розныя іншыя беларускія культурныя, эканамічныя і палітычныя арганізацыі.

Але хоць і добра ў кірунку незалежнасьці Беларусі разьвівалася праца ў краі, яе аднэй для гэтай мэты было замала. Аставалася йшчэ неабходным заінтэрасаваць беларускай незалежніцкай справай Эўропу і зрабіць гэту справу справай міжнароднай. Вось-жа, апроч дзяржаўнай працы ў краі, будуючая Беларускую Народную Рэспубліку Рада і яе ўрад праводзілі так-жа шырокую працу й заграніцай. Яшчэ ўлетку 1918 г. былі ўстаноўлены дыплёматычна-консульскія прадстаўніцтвы Бел. Нар. Рэспублікі на Украіне — ў Кіеве і Адэсе, на Доне — ў Роставе, на Паўночным Каўказе — ў Стаўропалі, у Літве, Латвіі, Эстоніі, у Празе Чэскай і ў Парыжы, а так жа нават і ў Савецкай Расеі — ў Маскве.

Увосень таго-ж 1918 г. былі арганізаваны надзвычайныя місіі, якія зрабілі падарожы: ў Кіеў — да ўраду гэтмана Скоропадзкага, у Варшаву — да ўраду Рады Рэгенцыйнай, у Вільню — да Ураду Літоўскай Тарыбы, у Бэрлін — да Германскага дзяржаўнага канцлера і да фракцыяў Рэйхстагу, затым у Копэнгагу (Данія) і ў Бэрн (Швайцарыя)

23 красавіка 1919 г. палякі перамаглі бальшавікоў, занялі Вільню, а пасьля й Менск. Некаторыя радныя і міністры, зблiжаныя да палякоў, мелі недзею, што будзе дазволена адбыць агульны сход Рады Рэспублікі. Ім паверылі і іншыя. З гэтай мэтай 1.XII.1919 ўсе прыбылі ў Менск, дзе аднак аказалася, што легальна склікаць Раду нельга. А гэта затым, што радных, якія стаялі за незалежнасьць, было больш, а тых, што імкнуліся да злучэньня Беларусі з Польшчай, было менш. Пры гэткім складзе й настроях Рады БНР палякі не давалі дазволу склікаць яе.

13.XII.1919 Рада адбылася нелегальна. На Раду полёнофілы ня прыйшлі сусім. Рада Рэспублікі выбрала новы прэзыдыюм, а так-жа й новы ўрад. Польская ўлада некаторых радных і міністраў арыштавала. Некаторыя-ж з іх паўцякалі заграніцу. Тое-ж пасьля зрабілі і звольненыя палякамі з турмаў.

Радныя полёнофілы сабраліся асобна, адарваліся ад Рады БНР і стварылі так зв. Найвышэйшую Раду, якая трымалася польскай ор‘ентацыі і на Польшч ускладала ўсе свае

надзеі. Хутка паказалася, што быў гэта ход фальшывы. Палякі, атрымаўшы, дзякуючы Рыскаму міру ў 1921 г., сучасныя ўсходнія граніцы, з Найвышэйшай Радай перасталі сусім лічыцца. Праканаліся аб гэтым і самі сябры Найвышэйшай Рады, калі ў тым-жа 1921 г. свае мандаты здалі Радзе БНР.

Тварцом Найвышэйшай Рады і яе ідэолёгам быў Антон Луцкевіч. Палітычны дзяяч гэты цьвёрда трымаўся польскай ор'ентацыі і верыў, што Польшч дапаможа ў будове незалежнай Беларусі. У архіве інж. Л. Дубейкаўскага[1]) спатыкаем лісты А. Луцкевіча, з якіх ясна відацца палітычныя яго пагляды, апёртыя на польскай ор'ентацыі.

І так у лісьце да інж. Л. Дубейкаўскага (з 8.VI.1920) А. Луцкевіч між іншым піша: ...„Я хачу ехаць у Парыж праз Дзьвінск—Рыгу і забраць Ладнова[2]), бо баюся, шта ён мо' сядзіць бяз грошы і сам ня здоляе выбрацца. Апрача таго трэба яго паінфармаваць аб палажэньні справы ў краю, каб ён не папаўся на вуду Ластоўскаму і комп[3])... Кеніншу[4]) можаце ў гутарцы сказаць, што я маю на мэце зрабіць умову з Латвіяй аб прызнаньні Дзьвінску за Латышамі, бо і для нас дужа небясьпечна, калі Дзьвінск прыпадзе літвіном і гэтым самым станецца пунктам маскоўска-нямецкага стыку. З другога-ж боку гэта дасьць нам сымпатыі латышоў, якія дзеля сваей уласнай карысьці будуць націскаць Польшч, каб нас прызнала... У гэты мамэнт мы павінны напружыць усе свае сілы дзеля заграмічнае работы: найменшы цень прызнаньня нас заграніцай дасьць цьвёрды грунт дзеля прызнаньня нас Польшчай, каторая адна толькі і можа ў гэты мамэнт даць нам рэальную помач..."

Ізноў-жа ў іншым лісьце А. Луцкевіча да таго-ж Л. Дубейкаўскага (з 3.VI.21) між іншым чытаем:

....Было-б вельмі важна, каб Ладноў папаў у Бруксэлю і там разьбіў комбінацыю Ластоўскага: гэты бандыт праз Цьвікевіча перадаў літоўскай дэлегацыі — нашым заклятым ворагам — абарону інтарэсаў Беларусі! Можаце прадставіць, якая гэта будзе абарона! Зьнясіцеся з Ладновым, мо' яму пераслаць мэмарыял Дзяржаўнага К-ту[5]), або Нац. К-ту ў справе праекту Humans'а? Вельмі важна паказаць, што Віленскі кантон — ня „польскі", як хочуць палякі, а ў найгоршым прыпадку „польска-беларускі". Калі б Ладноў мог

1) Інж. Л. Дубейкаўскі, ведамы з сваей асабістай і палітычнай чэснасьці, ад імя Бел. Ураду бараніў беларускай справы ў Варшаве; праканаўшыся ў нэгатыўных адносінах Польшчы да беларускіх палітычных незалежніцкіх ідэалаў, ад палітыкі адышоў, працуючы далей выключна на беларускай ніве культурнай і грамадзкай у Вільні.

2) Ладноў — давераны французаў і палякоў.

3) Ластоўскі і комп. — гэта тыя беларускія палітыкі, якія трымаліся незалежніцкай ор'ентацыі Рады Бел. Нар. Рэспублікі і яе ўраду.

4) Кенінш — латвійскі палітык.

5) Дзяржаўны К-т — гета фактычна тая-ж законсьпіравана Найвышэйшая Рада, якая фармальна ўжо не існавала.

дабіцца ад палякоў заняцьця такой пазыцыі, то тут усе — й нават увесь Нац. К-т пайшлі-бы з палякамі..."

Гэткія былі палітычныя пагляды А. Луцкевіча ў 1920 і 1921 г., калі на міжнароднай арэне рабіліся спробы вырашэньня між Літвой і Польшчай справы Вільні, ня іншымі, ведама, яны былі і ў 1919 г., калі ён тварыў Найвышэйшую Раду. Пагляды гэныя ўрэшце такімі-ж асталіся на працэсе „Бел. Сялянска-Работніцкай Грамады" ў Вільні. Будучы замяшаным у гэты працэс, на допытах сьледаваццеля 12 кастрычніка 1927 г. Ант. Луцкевіч між іншым заявіў, што ён па нацыянальнасьці „беларус-паляк"[1]). А гэта ўжо гавора больш, чым звычайная палітычная ор'ентацыя на Польшч. Але йдзём далей.

Ад канца 1919 г. і пач. 1920 г. Рада БНР і беларускі ўрад знаходзіліся заграніцай — сьпярша ў Літве, а пасьля ў Празе Чэскай.

Вялікім падтрыманьнем Рады БНР і яе працы ў кірунку будаўніцтва беларускай дзяржаўнасьці была ўсебеларуская палітычная нарада ў Празе 25 верасьня 1921 г. Нарада гэта між іншым сьцьвердзіла, што „адзіным заканадаўчым органам Беларусі зьяўляецца Рада БНР, маючая прэемсьцьвеннасьць улады ад Усебеларускага Кангрэсу 1917 г. і што адзінай адказнай уладай Беларусі зьяўляецца ўрад БНР, маючы мандат ад Рады БНР"[2]).

Найвышэйшая беларуская палітычная ўлада, будучы на эміграцыі, верна бараніла ідэал незалежнасьці Беларусі. Дзеля гэтай мэты яна праз сваіх агентаў рупілася аб адпаведную працу ў краі, а так-жа праз розныя мэморыялы бараніла незалежнасьці Беларусі на арэне міжнароднай.

Але час ішоў і працаваў на некарысьць Беларусі. Аказалася, што йшчэ беларусы занадта слабыя як у жыцьці сваім культурна нацыянальным, так эканамічным і палітычным, каб маглі абараніць Беларусь ад ворагаў і збудаваць яе незалежнасьць.

Рыскі мір 1921 г. заходнюю Беларусь украпіў за Польшчай, а ўсходнюю за Савецкай Расеяй Радзе БНР не аставалася нічога іншага, як толькі захаваць сябе, як найвышэйшую беларускую ўладу, каб прыпамінаць аб ідэалах незалежнай Беларусі як свайму народу, так і Эўропе. Гэта БНР і рабіла ў меру сіл сваіх.

Але прыйшоў урэшце цяжкі крызіс і для БНР. Сябры Рады БНР і яе ўрады апынуліся на эміграцыі ў цяжкім моральным і матэр'яльным палажэньні. Палітычнае міжнароднае палажэньне больш менш устабілізавалася і БНР усімі была забытая і пакінута. Лёс сяброў БНР і ўраду стаўся такім, як усей бела-

1) Акты справы Бел. Сял.-Раб. Грамады т. IV — F бач. 186 (паводле аднаднёўкі „Слова Праўды". Вільня 21 лістапада 1931).

2) Замежная Беларусь, бач. 63.

рускай інтэлігенцыі. Аставалася толькі Савецкая Беларусь, дзе да 1926 г. беларускай інтэлігенцыі была дадзена сякая-такая магчымасьць працы. Дык нядзіва, што і пакіравалася ў БССР усё беларускае жывое і творчае. Зачалі на БССР аглядацца й некаторыя сябры БНР. Да таго сярод іх савецкія палітыкі ўпорыста агітавалі за поўную ліквідацыю Рады БНР і яе ўраду і за поўнае аб'еднаньне з БССР. Вынікі ўсяго гэтага былі тыя, што ў Бэрліне ў канцы 1924 году некаторыя сябры беларускага ўраду свае мандаты здалі БССР. Праўда, фармальна гэта йшчэ ня была ліквідацыя беларускай сувэрэннай улады, бо старшыня Рады БНР гэнай перадачы мандатаў не пацьвярдзіў і Рада гэта, як насіцелька сувэрэннай бел. улады, асталася існаваць далей, але фактычна мала што аставалася ўжо ад гэнай улады, бо-ж радных ужо асталося толькі два-тры чалавекі. Ад гэтага часу ўжо фактычна можна гаварыць не аб беларускай сувэрэннай уладзе, але аб ідэі сувэрэннай Беларусі, якую верна перахавалі і пераказалі беларускаму народу гэныя два-тры чалавекі. Слушна аб гэтым кажа апошні старшыня Рады БНР П. Крэчэўскі, што „Права не ў сіле. Часовая перамога — ня ёсьць закон на будучыну. Романтызм ідэі творыць рэальнасьць, а не наадварот. Рэальнасьць падпарадкаўвае слабейшых, а моцны духам романтызм змагаецца і накрэсьлівае новыя шляхі будучыны. Не апраўдаўшыя народнага даверра рэалісты, адыйшлі ў старану, ці перайшлі ў варожы стан, а цьвёрды романтызм ідэі незалежнасьці і яе дзяржаўных установаў жывець далей і будзе жыць пакуль жыве сама ідэя“[1]).

Дзейнасьць П. Крэчэўскага ў справе барацьбы за незалежнасьць Беларусі настолькі выцатная і заслужаная, што варта хоць збольшага пазнаёміцца з яго біографіяй.

Сын дзяка сельскага прыходу Кобрынскага пав., Гарадзенскай губ. Радзіўся 7.VIII.1879 г. Вучыўся ў Віленскай Духоўнай Сэмінарыі, якую скончыў 1902 г. Пасьля займаў пасады: вучыцеля і банкавага ўрадаўца. У 1914 г. быў забраны на вайну і назначаны ваенным урадаўцам. Рэвалюцыя 1917 г. застае П. Крэчэўскага на гэтай пасадзе ў Барысаве На Усебеларускім Зьезьдзе 1917 г. быў ён выбраны сябрам Рады Зьезду. 19.II.18 увайшоў у склад першага беларускага ўраду (Народны Сакрэтарыят). У траўні 1918 г. заняў становішча Старшыні Гандлёвай Палаты Беларусі. 11 кастрычніка 1918 г. выбраны сакрэтаром Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. 13 сьнежня 1919 быў выбраны старшынёй гэтай Рады. Трымаць сьцяг незалежнасьці Беларусі і ў Беларусі аставацца, калі там панавалі чужынцы, ня было магчымым. Дзеля гэтага П. Крэчэўскі з беларускім урадам пра-

1) Замежная Беларусь бач. 131—132.

бываў заграніцай: у Коўне, у Бэрліне, Рызе, узноў у Коўне і ад 1923 аж да сьмерці 8.III.1928 г. прабываў у Празе Чэскай.

Па сьмерці П. Крэчэўскага, Старшыні Рады БНР, яго-ным намесьнікам стаўся В. Захарка, як жывы яшчэ сьведка, дзейны ўчасьнік і спадкабернік астаткаў беларускай сувэрэннай улады. Аб П. Крэчэўскім у лісьце 2.IV.1928 да рэд. „Бел. Крыніцы“ піша ён між іншым гэтак:



**П. Крэчэўскі.**

...„Ворагі Беларусі ня раз рабілі прапазыцыі і П. Крэчэўскаму, але ён заўсёды адкідаў з пагардай усё тое, што шкодзіла чыстаце нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і ганьбіла яго ўласнае імя. Ён добра ведаў, што гэтыя прапазыцыі робяцца толькі дзеля таго, каб выбіць з яго рук штандар асвабаджэньня Беларусі ад чужацкага ўціску. Цяжар жыцьця П. Крэчэўскага, як Старшыні Рады БНР, найбольш павялічваўся яго расчараваньнем у большасьці беларускіх палітычных дзеячоў. Пераход іх на іншыя пазыцыі, часта зьвязаныя ня толькі з падрывам становішча асоб, прадаўжаўшых служыць ідэалу беларускага народу,

але й асьмеяньнем самога ідэалу, прыносіў найбольшую прыкрасьць Крэчэўскаму і найсільней падрываў яго слабое здароўе.

Пётр Антонавіч Крэчэўскі памёр у беднасьці і адзіноцтве, будучы пакінутым амаль усімі беларускімі дзеячамі— былымі яго супрацоўнікамі, але аставіў па сабе багатую, крысталічную чэснасьць. Надойдзе час, калі адданасьць беларускаму народу будзе ацэнена гэтым народам!“

## Мой шлях.

Іду я цярністай дарогай,
Дыбаю ўпярод і ўпярод,
Хоць млеюць падбітыя ногі
І з твару мне коціцца пот.

Дарога даўгая бяз меры,
Ня знаю, ці хутка прайду..
Бо выюць галодныя зьверы
Варожачы нейку бяду.

І віхар узьняўшыся з поля
У вочы мне сыпле пяском,
Каб далей ісьці я ня здолеў
І стаўся зусім сьлепаком.

А я . . . . . . . . .
Дыбаю за крокам, у крок,
Каб як-жаж дабіцца да мэты,
Пакуль яшчэ сьвеціць мне зрок!

**Н. Жальба.**

* * *

Шэрыя цёмныя хмары
Цяжка па небе плывуць,
Дрэвы лісьцё раскідаюць,
Сьцюжай вятры так ідзьмуць.

Глуха і нудна у полі,
Сьціх салавей у гаёх —
Восень прыйшла і схавала
Сьветлыя дні ў туманох.

Сьпіць, спачывае зямелька
Людзям аддаўшы дары
Толькі балючае сэрца
Ня мае спакойнай пары.

**М-лады Дубок.**



* * *

Агні,... агні... Гараць высока
І зырка — места ліхтары.
Над ім, як Сфінкс, як Тайны вока
Вісіць твар месяца ў гары.

Ад вулак шум нясецца руху,...
Кудысь ляціць, бяжыць народ.
У паветры гар... і мучыць вуха
Бязладны рытм крыклівых нот.

Сьвісткі... сырэны... п'яны рогат
І дзесь прадажнай песьні звон.
Мне душна, жудка тут—о, горад!
Мне не пад сілу твой закон!

Я вёскі сын!.. лясоў і поля...
Мне міл і дораг іх прастор,
Люблю разгульны шум прывольля,
Не ліхтароў агні, — а зор.

**М. Машара.**

---

* * *

Prajšło ŭžo leta haračaje, a ŭ śled za im pryjšła i vosień panuraja. Usio pieramianiłasia. Nia čuvać užo śpievaŭ ptušynych, katoryja tak viesialili ludcoŭ, liście pažoŭkłaje syplecca z dreŭ u hraź. Pole apuściela i kałośsie nia šumić.

Ale našyja braty-harapašniki nie dapuściać da taho, kab ich paletki pustavali; jany jznoŭ svajeju mazalistaju rukoju zasiejuć ich tymi ziarniatkami, katoryja naźbirali. I jznoŭ dačakajucca času, kali nanava ichnija paletki zaruniejuć zieleńniu, moža jšče pryhažejšaju, jak kaliści.

O, jak-ža budzie pryjemna tady hladzieć na nivy, choć siańnia moža nie adzin biez achvoty prystupaje da hetaj pracy, da siaŭby, bo-ž treba jaje dobra vykanać i ad roznych vorahaŭ ścierahčy, dy z imi zmahacca, kab nia niščyli pasievaŭ. Treba tak-ža staracca, kab nie paźnicca ad susiedziaŭ, bo i škodniki tady nia buduć takimi strašnymi. Pamima ŭsiaho siejać treba, nia traciačy času i nadziei. Bo choć siańnia i chaładno, i dakučliva, i choć sonca mała kali pakazvajecca z-za chmaraŭ, jakija, zdajecca, až nižej apuścilisia, byccam chočučy zrabić bolšuju ciemru na našaj ziamielcy, ale ŭsio heta projdzie, a my dačakajem taho času, kali jznoŭ nas soniejka abahreje svaim ciapłom i ptušački zaščabiečuć, zapiajuć svaje miłyja pieśni. Nia budziem my tady korčycca ad chaładu, nia buduć nas akutvać łachmany, a budziem čucca volnymi i viasiołymi...

Uł. Adamčuk.

---

# Зямля, Сьвятло і Беларусь...

*(Уражаньні в вёскі).* 2)

### Весткі з сялянскіх хат.

Сонца ўжо было нізка і хутка хавалася за недалёкі і моцна ўжо выцераблены лес, калі я апынуўся ў невялікай глухой беларускай вёсцы. У канцы яе бегла разбляяная і рухавая стадка авечак, а зараз за ёй паважна йшлі на адпачынак і жуйку каровы з выкруглянымі бакамі, нясучы сваім гаспадаром поўныя вым'і пажывы. Пачакаўшы крыху, пачалі вясьці хлопцы з пашы і коні. Гаспадары і гаспадыні хутка канчалі работу і сьпяшаліся на заслужаны адпачынак.

Паволі надыходзіла ноч. На чыстым сінім небе што-раз больш знаходзілася зорак. У недалёкай маленькай і спакойнай рэчцы жабы заліваліся сваімі „трэлямі", хочучы быццам заглушыць салаў'я, які дзесь у садку пяяў свой вячэрні гымн красе. На дварэ было сьветла, бо замест сонца—на неба зьявіўся вялікі жаўтавы месяц, які, хоць і не сваім сьвятлом, стараўся асьвячаць усё. На паўночна-заходняй часьці—неба разьлівалася чырвань, якая сьведчыла, што дзесь далёка на поўнач ад нас трывае „доўгі дзень", што там цяпер пара, калі сонца не заходзіць. Вёска засынала. Прыгожая вясьняная ноч абыймала, сьцішала і засыпляла ўвесь край.

Я ўжо сядзеў у невялікай, асьвечанай газоўкай, сялянскай хаце, дзе было пару знаёмых старэйшых сялян і маладых хлопцаў. Вялі мы з сабой жывую і шчырую гутарку.

— Няхай яно прападзе, гэта наша вясковае жыцьцё! Каб я мог як-небудзь вырвацца з вёскі, дык ня ведаю, як за гэта ўжо і адплачываўся-б — заявіў адзін з сялян.

— А дзе-ж ты цяпер дзенешся! — у безработныя пойдзеш хіба? — Ды і да іх ня надта лёгка ўпісацца — адказаў яму ягоны сусед.

— Ды кіньма аб сабе думаць! Лепш ужо стараймася, каб дзяцей сваіх неяк вучыць, — каб адны з іх маглі добра жыць на вёсцы, а другія — йсьці ў людзі.

— Ага, вучыць! Лёгка сказаць «вучыць», але трудна, ой трудна гэта рабіць! — адказаў яму хтосьці.

І сапраўды так ёсьць. Асьвета для нашага сялянства недаступная. Калі гаварыць аб асьвеце пачаткавай, то трэба сказаць, што наўперад для ўсіх дзяцей не стае школаў. Далей, тыя-ж школы, якія ёсьць па вёсках: 1 і 2-х клясовыя, — польскія, чужыя і незразумелыя для беларускіх дзяцей, ды ў іх нейкія дзіўныя парадкі. Так напр. дзіця, хоць-бы яно вучылася найлепш у 3-цім і 4 тым аддзелах, мусіць сядзець па 2 а то й па 3 гады, дзеля таго толькі, каб адбыць прадбачаную законам колькасьць гадоў прымусовага навучаньня(?!). Гэта-ж толькі марнаваньне часу.

У школы пачатковыя 7-мі аддзяловыя і сярэднія, таксама польскія, сяляне ня могуць сваіх дзяцей пасылаць, бо не дадуць рады заплаціць за навуку, утрымаць дзяцей у месьце,

апрануць іх па форме, купіць кніжкі, пісьменныя прылады і інш. І так вёска прымушана далей сядзець у цемнаце.

— Ну, а ці праводзяць якую-небудзь культурную працу польскія арганізацыі? — пытаю — ведаючы, што беларускіх арганізацыяў там няма і няма магчымасьці ім паўстаць.

— Ды, дзе там, толькі абяцаюць. Яны фактычна йшчэ прычыняюцца да дэмаралізацыі моладзі, — быў адказ.

— Вось у в. Аліховай, Росьскай гм., вучыцель залажыў „Стшэльца" і пачаў ладзіць „забавы", на якія ўпушчаў тых, што абяцалі запісацца ў сябры гэтай арганізацыі. Гэта выклікала вялікае незадаваленьне сярод моладзі і яна саргганізавала аддзел „Звёнзку Млодэй Всі" і пачала змагацца з „Стшэльцам". Дайшло да таго, што аднаго вечара сябры „ЗМВ" пайшлі ў „сьвятліцу" „Стшэльца" і пачалі яе граміць: пабілі вокны, лямпу, а так-жа і партрэты. З гэтай прычыны на заўтра прыехала паліцыя, рабіла сьледзтва і ня ведама, чым йшчэ ўсё кончыцца. Узноў „кола" „ЗМВ" у в. Бойдаты, Цярэшкаўскай гм. з сваім радыям сталася косткай нязгоды гэтай вёскі з суседняй вёскай Гароднікі. Давяло нават яно да крывавае бойкі. А трэба сказаць, што гэтыя вёскі дасюль цешыліся найлепшай славай на ўсю ваколіцу. Успомненая аднак бойка, здаецца, пахавала „кола",бо моладзь на сваім сходзе 16.VI.35 пастанавіла яго зьліквідаваць і гэтым самым ачысьціцца ад ганьбы.

Далей пачалі мы гаварыць аб справах рэлігійных, а пры гэтым выявілася, што на вёсцы апошнім часам вельмі актыўна разьвіваецца бязбожніцкая акцыя. Сьведчаць аб гэтым наступныя выпадкі: у 1933 г. у Алекшычах, Горадзенскага пав., нехта на прыдарожным крыжы павесіў сабаку, у 1934 г. у в. Дуляўцы, Ваўкавыскага пав., быў раз павешаны на крыжы чырвоны штандар, а другі раз гэты-ж крыж быў перабіты, у 1935 г. падобна таксама быў ён зьневажаны, а 19.III.35 дык нават чырвоны штандар нехта вывесіў каля касьцёла ў Рэплі, Ваўкавыскага пав., у часе місіі.

—Няўжо-ж—пытаю—у вас так многа разьвялося бязбожнікаў, што аж такія, нідзе нячуваныя, дзікія бываюць выпадкі?

— Не, — адказваюць. — Бязбожнікаў ня шмат, далёка больш сэктантаў, але сэктанты гэтага ня робяць.

Хто-ж тады — думаю — гэта робіць?

Ясна, што не народ, бо ён да гэтага йшчэ,пакульшто, не дайшоў. Робяць гэта камуністычныя агенты, якія хочуць выказацца працай. Але можа дайсьці да таго, што бязбожніцкая акцыя будзе мець вялікі послух, бо чужая мова ў сьвятынях, а так-жа варожае становішча каталіцка-польскага і праваслаўна-расейскага духавенства да беларускага адраджэнскага руху выклікаюць вялікае незадаваленьне сярод масаў і бязумоўна ствараюць падатны грунт, як для бязбожніцкай, так і сэктанскай агітацыі.

Гутарцы нашай мусіць доўга ня было-б канца, але трэба было йсьці хоць крыху адпачыць, бо ўжо добра сьвітала.

*(д. б.)* Я. Н.

## Z VYDAVIECKAJ NIVY

*Wincuk Adwažny* — „Chłapiec". Powieść. Wydańnie „Biełaruskaj Krynicy". Wilnia 1935. Bačyn 244. Farmat 15×21 cm. Cana 1 zł. i 50 hr.

Novaja biełaruskaja powieść, dy vydanaja jšče drukam, u Zachodniaj Biełarusi —heta redkaść i novaść. Čamu? Tamu, što kab povieść napisać, treba mieć adpaviednyja varunki žyćcia, mnoha času i ŭłažyć u jaje mnoha pracy, a vydać—treba mnoha hrošaŭ. A hetaha jakraz u biełarusaŭ niama.

Dziela hetaha, povieść Vincuka Advažnaha „Chłapiec", dziesiataja jahonaja biełaruskaja knižka vydanaja drukam, asabliva mocna pryčyniłasia da ŭzbahačeńnia biełaruskaje litaratury, tym bolš, što napisana jana davoli dobraju biełaruskaju movaju, lohkim stylem i pabudžaje ŭ čytaču pačućcio lubić ŭsio svajo biełaruskaje. Asabliva heta adnosicca da pieršaje častki knižki. Maje adnak „Chłapiec" i svaje słabyja starony, a imienna: akcyja ŭ jom krychu za nudnaja i za šmat u im paśviačana miesca ksiandžom, ichnym haspadyniam, arhanistamu, dziaku, a zamała hałoŭnaj asobie povieści — chłapcu Vincusiu.

Povieść Vincuka Advažnaha asnovana na žyćci biełarusaŭ katalikoŭ pad uładaj rasiejskich caroŭ u kancy XIX i na pačatku XX stahodździaŭ. Apisany ŭ joj imknieńni biełarusaŭ da aśviety, pačatki nacyjanalnaha ŭśviedamlańnie biełarusaŭ, trahedyja baćkoŭ biełarusaŭ, jakich syn vyvučyŭšysia na ksiandza, čurajecca ich i ŭsiaho biełaruskaha, a tak-ža zmahańnie katalictva i pravasłaŭja na našych ziemlach.

„Chłapiec" jość zdajecca povieściu aŭtobiohrafičnaj i treba spadziavacca dalejšaha jaje ciahu.

---

**„Сьветач Хрыстовае Навукі".** Пад гэткім назовам сёл. ў м-цы верасьні ў Вільні пачаў выходзіць новы беларускі невялічкі месячны культурна-рэлігійны часапіс. Выдаюць яго мэтадысты, а рэдагуе іхні пастар Ян Пятроўскі.

---

Нядаўна рэдакцыя „Шл. Моладзі" атрымала з Львова украінскі **„Календар для всіх" на 1936 г.**, выданы шырока ведамым украінскім выдаўцом і публіцыстым Іванам Тіктором у ліку 15,000 экзэмпляраў. Календар гэты вялікага фармату, мае 180 бачын, з ілюстрацыямі, ў прыгожай вокладцы, апрацаваны вельмі ўдала і каштуе ўсяго 1,50 зл. Можа ён сьмела быць узорам для выдаўцоў беларускіх календароў.

---

**„Беларускі Адрыўны Календар на 1936 г."**, аб якім мы пісалі, хутка выйдзе ўжо з друку і зьмест ягоны мае быць багаты і размавіты, а цана даступная. Хутка тасама выйдуць з друку беларускія календары на 1936 г. кніжкай: грамадзянкай і лацінкай — кожны асобна. *Я—н.*

---

## ХРОНІКА

### З беларускага жыцьця

**Суды.** — 11-га кастрычніка сёл. у Віл. Гарадзкім Судзе мае разглядацца справа рэдактара „Шл. Моладзі" Я. Найдзюка, абвінавачанага за зьмяшчэньне ў № 4 „Шл. Мол." артыкулу, за які гэны нумар быў сканфіскаваны Віл. Гарадз. Старастай.

— 22-га кастрычніка Віленскі Акружны Суд будзе разглядаць справу ведамых беларускіх ксяндзоў В. Гадлеўскага і Я. Семашкевіча, абвінавачаных за кніжку „На рокуссі", якую ў мін. годзе польскія адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі.

— 20-га верасьня сёл. Віл. Гарадзкі Суд засудзіў рэдактара „Новага Шляху" грам. Ул. Казлоўскага на 4 тыдні арышту і 100 зл. штрафу за надрукаваньне ў адным з нумароў „Н. Шл." вершу, які быў сканфіскаваны Віл. Гарадз. Старастай.

**Не далі пашпарту.** Як мы ўжо пісалі ў апошнім нумары „Шл. Мол.", на сёлетні XI-ты Кангрэс Эўропэйскіх Нац. Меншасьцяў у Жэнэве ад Беларусаў меў ехаць інж. А. Клімовіч, які аднак ня змог гэтага зрабіць, бо польскія адміністрацыйныя ўлады не далі яму заграмічнага пашпарту. Дзеля гэтага беларускі дэлегат змушаны быў агранічыцца да высылкі выясьняюча-прывітальнай тэлеграмы, а Прэзыдыюм Б.Н.К-ту выслаў пісьменна генэральнаму сэкрэтару Кангрэсу сваё становішча да разгляданых на Кангрэсе пытаньняў, якое было там адчытана ў часе нарадаў.

**Рэзалюцыя БНК і канфіската „Бел. Крыніцы".** 14 IX.35 адбылося паседжаньне Прэзыдыюму Бел. Нацыянальнага Камітэту, на якім пастаноўлена выдаваць для прэсы папольску інфармацыйны бюлетэнь аб жыцьці Беларусаў і прынята рэзалюцыя ў справе асьветы на беларускіх землях, за апублікаваньне каторай № 34 „Бел. Крыніцы" адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі.

**На літаратурны конкурс „Шляху Моладзі"** прыслана 16 новэляк. Вынік конкурсу падамо ў наступным нумары.

**БІГіК і камуністы.** 21.IX сёл. адбылося паседжаньне Цэнтральнага Ураду Бел. Інстытуту Гасп. і Культ. на якім пастаноўлена адкінуць заклік бел. камуністаў (КПЗБ) аб супрацоўніцтве і аб'яднаньні.

**Беларуская культурна-асьветная праца на вёсцы.** — 5.VIII сёлета Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў в. Харкі, Пастаўскага пав., ладзіў прадстаўленьне. Ставілі „Лекары і лекі" і „Пасланец".

— 18.VIII 35. Гурток БІГіК у в. Лядкі Стаўп. п. ладзіў бел. скае прадстаўленьне з дэклямацыямі вершаў Янкі Купалы.

— Таго-ж 18-га жніўня ладзіў бел. прадстаўленьне і Ляхавіцкі Гурток БІГіК у в. Лоцьве, Баранавіцкага пав. Ставілі „На вёсцы" і „Міхалка". Пасьля прадстаўленьня былі танцы.

— Ладзіў сёлета летам бел. прадстаўленьне Гурток БІГіК у Жодзішках, Вялейскага пав., які ставіў дзьве п'есы: „Мікітаў лапаць" і „Зьбянтэжанага Саўку" ў в. Сычыняты.

— Намагаўся так-жа зладзіць 28-га ліпня бел. прадстаўленьне Гурток БІГіК у в. Шальцінах, Браслаўскага пав., але не дастаў на гэта дазволу.

Арганізатарамі гэтых культурных імпрэзаў зьяўлялася пераважна беларуская мясцовая вясковая моладзь, за што ёй чэсьць і слава!

**Беларуская песьня гарой!** Грам. Р. Шырма запісаў сёлета 70 новых народных беларускіх песьняў, да гарманізацыі якіх з энтузыязмам прыступіў ведамы кампазытар Грэчанінаў. Даведваемся так жа, што ў хуткім часе хор грам. Шырмы, мае йзноў сьпяваць беларускія песьні ў віленскім радыё.

**Лік вучняў у беларускай гімназіі павялічваецца**. У сёлетнім новым школьным годзе заўважваецца ў беларускай філіі дзяржаўнай гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні павялічэньня колькасьці вучняў, бо ў адну толькі першую клясу ўступіла больш 45 асоб. Трэба аднак зазначыць, што многа з іх, пераважна тыя што з вёскі, знаходзяцца ў так цяжкім матар'яльным палажэньні, што фармальна галадуюць. Вось-жа трэба было-б падумаць аб помачы!

**З БССР. Новая паэма Я. Коласа.** Новая повесьць Я. Коласа „Дрыгва", аб якой мы пісалі ў апошнім нумары „Шл. Мол.", ужо выйшла з друку асобнай кніжкай, а цяпер у „Полымі Рэвалюцыі" друкуецца новая ягоная паэма „На шляхох волі", з выразна бальшавіцкім зьместам.

**25-я ўгодкі**. Сёлета прыпадаюць 25-я ўгодкі літаратурнай творчасьці Зьмітрака Бядулі — Ясакара.

**Новыя кнігі пабеларуску.** Дзяржаўнае Выдавецтва БССР выдае пабеларуску дзьве новыя кнігі «Сталін» і «У агні» камуністычнага францускага пісьменьніка Анры Барбюс, які сёлета 30-га жніўня памёр.

**Літаратурны зборнік маладых пісьменьнікаў і паэтаў Савец. Беларусі** мае ўжо хутка выйсьці з друку. Будуць у ім зьмешчаны творы 18 аўтораў — А. Бурдзеля, Пімена Панчанкі, Бацюшкава, М. Сяднёва, Бачылы, М. Калачынскага, Матэвушава, Леанідава, Пацёмкіна, Гаўрына, Няхая і інш.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ. Ліквідацыя беларускага школьніцтва.** Латвійскія ўлады, паміма просьбаў бел. грамадзянства ня ліквідаваць Беларускае Дзяржаўнае Гімназіі ў Дзьвінску, усё-ж-такі зьліквідавалі гэту школу, злучаючы яе разам з польскай і расейскай гімназіямі ў адну супольную школу п.н. „ІІ-я дзярж. гімназія ў Дзьвінску". Другую бел. гімназію ў Рызе тыя-ж улады зусім замкнулі. Таксама замкнулі яны ў Рызе прыватную пачаткавую беларускую школу званаю Таранс-бэрскай.—Як бачым, латвійскія нацыяналісты маюць зьвярыныя апэтыты і не баяцца, што могуць аб'есьціся, а гэта можа стацца...

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

## USIAČYNA

— **VAJNA!** Ranicaj 3 ha kastryčnika sioleta italijancy bambardavańniem abisynskaha m. A dui i pierachodam abisynskaje hranicy pačali Italijanska-Abisynskuju vajnu. Jość užo vialikija straty ŭ ludziach pa staranie abisyncaŭ. Vajna heta moža z Afryki pieraniaścisia i ŭ Eŭropu i źmianić jaje da niepaznańnia. Pieražyvajem biazumoŭna vialikija padziei. Voś-ža moładź biełaruskaja ŭ hety mament asabliva pavinna pomnić ab svaich abaviazkach adnosna Biełarusi...

— **VI Źjezd polskich historykaŭ** adbyŭsia sioleta ŭ Vilni ad 17 da 20.IX. i byŭ paśviačany 550-lećciu Kreŭskaj Unii Vialikaha Kniastva Litoŭskaha z Polščaj i 500-lećciu boju pad Vilkamiram. Źjezd hety vitaŭ, pamiž inšym, ad Biel. Navukovaha T-va ŭ Vilni hram. A. Łuckievič, jaki tak-ža čytaŭ biełaruski referat. Aproč jaho čytaŭ jašče biełaruski referat hr Vincuk Hryškievič.

— **Vybary ŭ polski Sojm i Senat,** jak viedama, užo adbylisia. Jak i treba było spadziavacca, udzieł hramadzianstva ŭ ich byŭ vielmi mały, tak što navat 2-ch pasłoŭ zusim nia vybrana, bo jany ŭ svaich akruhoch nie zdabyli navat i pa 10,000 hałasoŭ. Z hetaj pryčyny Sojm budzie mieć nia 208 a 206 pasłoŭ, katoryja źjaŭlajucca starońnikami sučasnaha polskaha ŭradu. Pamiž ich jość niekalki ŭkraincaŭ i žydoŭ. U Senat vybrany i naznačany Prezydentam ludzi z padobnymi pahladami.

— **Bolš milijona moładzi** ŭ školnym vieku jość pavodle „Polskiej Agencji Oświatowej” ŭ Polščy pazbaŭlena mahčymaści vučycca ŭ škole z pryčyny niastačy ich. Jasna, što najbolšy pracent hetaj moładzi prypadaje na biełaruskija ziemli.

— **U Norymberzie** (Niamieččyna) sioleta ŭ pałovie miesiaca vieraśnia adbyŭsia VII-my partyjny hitleraŭski kanhres, na jakim, pamiž inšym, była pračytana deklaracyja Hitlera, u jakoj skazana što hitleraŭcy nia chočuć zmahacca z chryścijanstvam, bo musiać zmahacca z „mižnarodnym žydoŭstvam“ i z „marksyzmam“, što aznačaje baraćbu Niamieččyny z SSRR. U času hetaha kanhresu adbylisia vialikija vajskovyja pachody, u jakich prymali ŭdzieł 100,000 palityčnych kiraŭnikoŭ nacyjanał-sacyjalistyčnaj hitleraŭskaj partyi.

— **6 milijardaŭ ludziej,** pavodle padličeńniaŭ vučonych, moža vykarmić našaja ziamnaja kula, pry sučasnaj ziemlarobskaj technicy, tady, kali budzie spraviadlivy padzieł dabra. Ciapier-ža žyvie na ziamli kala 2 milijardaŭ asob.

---

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

А. Чэмэры, Дынаміту, Дняпрову, А. С., Ключніку, Ігналю Мацеёўскаму і М. Л.: Новэлі на конкурс атрымалі, дзякуем. Рэзультаты падамо ў наступным нумары.

Вярбіне: Вершы атрымалі і два і іх паправілі. Адзін з іх надрукуем у наступным нумары, а другі пасьля, хоць яны здаецца ня зусім арыгінальныя. Радзім больш чытаць, працаваць над сабой і пяра ня кідаць.

Аўтору „На узлох дарог“: Матар‘ял да друку не падходзіць, радзім пазнаць добра бел. граматыку, правапіс і чытаць бел. кніжкі. Як будзеце больш пісаць, дык просім падаць свой адрас і прозьвішча.

Б. Камароўскаму: Вершы слабыя формай, культае так-жа мова. больш працуйце над сабой.

В. Хомцы: „На начлезе“ слабаватае, але пастараемся надрукаваць.

С. Жамойдзе: За прысланае апісаньне вясельных абрадаў у Беларусаў шчыра дзякуем і просім адведаць нашу рэдакцыю, бо трэба было-б яго крыху дапоўніць

Чарнабылю. Прозу паправіўшы надрукуем у наступным нумары, а вершы пасьля Здаецца што яны зьяўляюцца насьледаваньнем. Вось жа радзім Вам гэтага не рабіць Пісаць трэба старацца самастойна.

Aviečcy i V. Ramanavu: Vašy vieršy lišnie doŭhija i słabyja, paprabujcie pisać prozaj.

Uł. Adamčuku: Za piśmo i matarjały ščyra dziakujem. Jak bačycie, častkova karystajem užo. Radzim Vam bolš čytać i pracavać nad saboj, a budziecie mahčy dobra pisać. Pryvitańnie!

Justynu Stankieviču: Hram. Stanisłaŭ Stankievič, jaki pieradaŭ nam Vaša piśmo, a tak-ža i my nažal ničoha nia možam pamahčy.

# KUTOK RAZRYVAK

Pad redakcyjaj U.Paŭlukoŭskaha

Logogryf № 2 (*ułažyŭ U. P.*).

Na Š — mianie jaduć,
Na V — sa smakam p'juć,
Na R — ludziej pužaju,
Na P — ich nakryvaju.

Zadačy: № 3. Jakoj ziamli treba dla rostu kožnaj raśliny?
№ 4. Što čarniejšaje ad hruhana?
№ 5. Što najbiadniejšy maje ŭ haršku?

## Jak heta zrabić:

1. Kab u nakreślenym adpaviednym sposabam točnym kvadracie vyšynia jaho zdałasia bolšaju za šyryniu, i naadvarot.

2. Kab najpraściejšym sposabam z troch adnolkavych kvadrataŭ złažyć adzin vialiki kvadrat (kvadraty možna razrezać).

3. Kab u roŭnabokim trykutniku zdavalisia roŭnymi tolki dva baki, jakija ŭ toj-ža samy čas pakazalisia-b daŭžejšymi za treci bok hetaha-ž trykutnika.

## Gieometryčnaja zadača.

Sielanin 4-m svaim synom daŭ kusok harodu, na katorym rasło 8 dreŭ, i zahadaŭ im paroŭni padzialić jaho pamiž saboj i tak, kab na kožnaj dzialancy rasło pa 2 drevy.

Jak syny padzialili?

(Z boku padajom rysunak harodu z drevami.)



## Enstychoz.

Znajści 6 słoŭ pa 6 litar kožnaje, kab z pačatnych litaraŭ ich možna było ŭłažyć pseŭdonim adnaho biełaruskaha paeta.

Značeńnie słoŭ: 1 — kaladnaja ježa; 2. — adjomny vynik; 3. — duchovaja dziejnaść; 4. — kusok dzierava; 5. — daŭniejšaja miera; 6. — škodnaja płyń (słovy hetyja treba pisać hraždankaj).

**Raźviazki** logogryfu i zadač źmieščanych u № 10 „Sl. Moładzi", a tak-ža proźviščy tych, što ich raźviazali i hetym samym zdabyli naharody ŭ postaci biełaruskich knižak, padamo ŭ nastupnym numary.